# НЯМЕЦКАЯ КРОЎ ПАСЬЛЯ 3 ГАДОЎ ПОМШЧАНА

Надзвычайны Суд у Лесляу засудзіў паляка Язэпа Рачковяка на кару сьмерці за ўдзел у праступніцкіх выступленьнях супроць немцаў у верасьнёвыя дні. 6-га верасьня 1939 г. каля нямецкай граніцы быў зьбіты польскі самалёт. Пілёт змог выскачыць з парашутам. Каля яго сабраўся натоўп цікавых. Пілёт у шалёнай злосьці пачаў абвінавачваць адну нямецкую жанчыну, што быццам яна нямецкім лётнікам давала знак, расьцілаючы палатно. Падбураны адным польскім афіцэрам натоўп сабраўшыхся палякаў кінуўся на суседнія нямецкія двары і зьверскі забіў 21 мірных, ні ў чым непавінных сялян, жанчын і дзяцей. Галоўным зачыншчыкам і галаваром гэтага забойства быў паляк Рачковяк, які страляў з рэвальвэру ў немцаў і забіваў дзяўчат і дзяцей. Аб гэтым гэты падлюга пасьля хваліўся нават перад сваімі сябрамі.

Калі разваліласа Польшча, ён, чуючы віну, хаваўся, але нядаўна яго выкрылі ў Пазнані. Ён атрымаў заслужаную кару.

## Уцёкшы з Каiру жыд хацеў прашмугляваць грошы ў абяцаную зямлю

Адзін з жыдоўскіх уласьнікаў вялікага магазыну Цікурэль у Каіры, як толькі пачалі зьбліжацца да Эгіпту войскі дзяржаваў восі, адразу ўцёк з Эгіпту ў напрамку Палестыны.

Ён ужо прайшоў мытны кантроль на Суэцкім канале. Адзін мытнік заахвочваючы пахлопаў яго па плячы, каб пажадаць яму шчасьлівай дарогі ў абяцаную зямлю. Мытнік пры гэтым заўважыў, што плечы жыда былі выпханы цьвёрдымі прадметамі. Пры праведзенай рэвізіі аказалася, што вопратка жыда зьверху да нізу была выпхана залатымі манэтамі й біжутэрыяй.

ПАДВОДНАЯ ЛОДКА НА ДАЛЁКАЙ ПОЎНАЧЫ.



Спакойна і пэўна заплывае падводная лодка ў порт, каб нанова запасьціся баявымі матарыяламі.

## Атлянтыцкі акіян апусьцеў

Партугальскае грамадзтва, якое з напружанай увагай сочыць за гіганцкай барацьбой нямецкіх падводных лодак супроць ангілйска-амэрыканскага суднаходзтва, штодзень пазнае ўсю аграмаднасьць суднаходнае катастрофы Англіі і Амэрыкі. Аб гэтым даведваюцца ў Партугаліі з расказаў вяртаючыхся дамоў марякоў, якія, плывучы з Амэрыкі ў Эўропу, ня бачаць амаль ніводнага карабля. Наяўныя караблі, якія ўсё радзей заплываюць у Лісабонскі порт, сьведчаць таксама аб тым, што мараплаваньне ўсьцяж памяншаецца і што брытанскае заспасабленьне ідзе па далёкім вакольным дарогам. На ўсіх марох, піша Лісабонская газэта «А воз», ангілйска-амэрыканскае суднаходзтва зпаходзіцца ў сьмяротнай небясьпецы.

З БАЁЎ ЗА АРОЛ.



Ужыты бальшавікамі амэрыканскі танк. Ён таксама разьбіты нямецкай зброяй.

ТАНКАВАЯ АТАКА НА ЗАНЯТУЮ БАЛЬШАВІКАМІ ВЁСКУ НА ЎСХОД АД КУРСКА.



Вораг заўзята бараніўся ў гэтай вёсцы. Пасьля жорсткае барацьбы вёска была здабыта. Нямецкія танкі ўяжджаюць у вёску, у якой уцякаючы вораг пакінуў амуніцыю і бэнзыну.

## Баі на Новай Гвінэі

**Рэйтэр сьцьвярджае высадку японскіх ударных войскаў у Аўстраліі.**

Паклікаючыся на афіцыяльныя аўстралійскія кругі, ангілйскае агенцтва Рэйтэр падае наступную сэнсацыйную вестку з Канбэрры. Можна верыць зьвесткам, што японцы высадзіліся з падводных лодак на розных мейсцах аўстралійскага ўзьбярэжжа й схаваліся невядома дзе, каб пачаць у адпаведны момант акцыю. Рэйтэр выказвае ўстрывожаньне, каб аб гэтай высадцы не даведаліся саюзьнікі.

З аўстралійскага боку паведамляецца аб баёх на Новай Гвінэі, у сувязі якраз з паступам высадзіўшыхся нядаўна на ўзьбярэжжы Папуі японскіх штурмовых войскаў, якія прабіліся ўглыб краю. Цяперашнія баі быццам адбываюцца на паўночны ўсход ад гораду Кобока, які знаходзіцца ў горах.

Прыбыўшы ў Англію новазэляндзкі выслаьнік у Вашынгтоне, Нэш, таксама заявіў аб ваенным палажэньні на Ціхім акіяне, што сытуацыя ў Новазэляндыі хоць больш пэўнейшая, чым некалькі месяцаў таму назад, але японцы на сушы вельмі моцныя, а асабліва моцныя на моры. Заўзятыя баі яшчэ разыграюцца на Ціхім акіяне. Трэба супроцьставіцца ворагу, заявіў новазэляндзкі выслаьнік, не зважаючы на ўласную бясьпечнасьць, і не забываюца аб знаходзячыхся пад пагрозай даўмініях, ці гэта будзе Новая Зэляндыя ці Аўстралія. Гэты паіўны новазэляндзкі выслаьнік зьвяртаецца з гэткімі словамі да ангельскага грамадзянства якраз у такім часе, калі ў Англіі сьняць доўгі сон аб акцыі супроць Эўропы.

## Сырыя бароніцца ад брытанскага грабежніцтва

Як паведамляюць з Дамаску, брытанцы мусілі згадзіцца на дамаганьне сырыйскага ўраду прызнаць сырыйскай паліцыі права кантролю транспарту, які правозіцца на брытанскіх ваенных самаходах. У абаснаваньні гэтага гаворыцца, што брытанскія вайсковыя ўрады прызналі сырыйскім уладам гэтае права з увагі на «розныя прыкрыя надужыцьці». Сырыйскі ўрад быў змушаны дамагацца гэтага кантролю, відочна, дзякуючы выпадкам у Лібане, дзе брытанцы рабавалі й правозілі на ваенных самаходах запасы, прызначаныя для жыхароў. Сырыйскі ўрад гэтай мерай хоча абараніць Сырыю ад брытанскага грабежніцтва. Слабасьць брытанцаў характэрызуе тое, што ангельскае галоўнае камандаваньне мусіла згадзіцца таксама на гэтае дамаганьне.

## АБВЕСТКА

**Згубленая легітымацыя № 785/42, выданая дня 29.7.1942 Беларускім Камітэтам у Беластоку на імя Вярамчука Антона, праж. у нал. Лявіцкія, Кур'янскай гміны, Беластоцкага павету, уневажняецца.**

*Herausgeber und Druck: Sturmverlag G.m.b.H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437.*

НОВЫЯ АБРАЗЫ З ЗДАБЫЦЬЦЯ ВАРОНЕЖУ.



Бомбы штукасаў зьнішчылі гэты савецкі танк у сярэдзіне гораду.